Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 27 (81) Нядзеля, 12-га Ліпня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Надпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар.— 5 гр.

## Cirkulus viciosus

### (Зачараваны круг).

Нарэшце, пасьля трохгадовага свайго істнаваньня, Сойм польскі заняўся зямельным пытаньнем.

Дзеля таго, што Польшча ёсьць гаспадарствам земляробскім, дык пытаньне гэтае зьяўляецца для яе кардынальным.

I здавалася-б, што ўсе партыі павінны былі-б разумець, якое вялікае значэньне мае для карысьці Дзяржавы хутчэйшае выкананьне зямельнае рэформы.

Але, на дзеле аказваецца зусім інакш.

Ужо ў першых партыйных дэбатах, якія падняліся пры абгаварваньні ўрадовага зямельнага праекту, зазначылася гэткая гарачая барацьба, што трудна нават і прадбачыць чым яна можа скончыцца.

Справа значна пагаршаецца тым, што да зямельнага пытаньня, якое само-па-сабе зьяўляецца надта скамплікаваным, дадаюцца яшчэ і іншыя мамэнты, якія яшчэ больш заблутываюць гэтую справу.

Перад усім, тут пачынае зарысоўвацца клясавая барацьба паміж прадстаўнікамі вялікага абшарніцтва з аднаго боку і прадстаўнікамі дэмократыі і сялянства— з другога. Заява пасла Строньскага (N. D.) у „Варшавянцы" аб тым, што нібыто Польшча ня можа атрымаць пазыкі, бо гэтаму перашкаджае правядзеньне аграрнае рэформы,—ясна характарызуе становішча правіцы. Зусім зразумела, што гэткія адносіны вялікіх земляўласьнікаў да зямельнага пытаньня і нежаданьне іх ісьці на компромісы дзеля агульнае карысьці Дзяржавы, — страшэнна нэрвуе прадстаўнікоў дэмократыі і сялянства.

Другім мамэнтам, які яшчэ больш завастрае барацьбу, зьяўляецца праект колёнізацыі крэсавых земляў. Няма нічога дзіўнага ў тым, што праект новага асадніцтва вызывае рашучы пратэст, як з боку праўдзівае польскае дэмократыі, так і з боку прадстаўнікоў беларускага і ўкраінскага народаў.

Для ўсіх тых, хто мае вочы, павінна быць ясна, што ідэя асадніцтва на крэсах, ідэя асыміляцыі і дэнацыяналізацыі беларускага і ўкраінскага насяленьня гэтых крэсаў, зусім збанкрутавала. Не дасягнена таксама і мэта характару „этычнага"—нясеньня заходняе культуры несьвядомай і цёмнай сялянскай масе, бо ня гледзячы на пэўны, чыста клясавы, антагонізм, наш сялянін ніколі ня быў гэтак далёкі ад панскага двара, як цяпер ён далёк ад ваякі-асадніка.

Асадніцтва было і ёсьць аднэй з галоўных прычынаў заўсёднае фэрмэнтацыі і незадаваленьня беларускага і ўкраінскага сялянства.

Асадніцтва яшчэ магло знайсьці сабе якое-колечы апраўданьне, як неабходнае зло пасьля-ваенных падзеяў, як пэўная компэнсацыя элемэнтаў вайсковых, якім зямля была дакляравана яшчэ ў часе вайны. Але асадніцтва, якое праводзіцца ў спакойным часе і мае на мэце надзяленьне зямлёю ўжо не вайсковых, а цывільных з Галіцыі і іншых месц, гэтае асадніцтва, апрача вялікай крыўды мясцоваму сялянству, прынясе яшчэ вялікую шкоду і Дзяржаве, а ў будучыне можа прынясьці і зусім непажаданыя рэзультаты. Гэтакае ігнараваньне жыцьцёвых зямельных патрэбаў двух сялянскіх народаў — беларускага і ўкраінскага, бязумоўна нэгатыўна адзавецца на адносінах гэтых народаў да гаспадарства.

Апошнія „угоды" з жыдамі павінны быць пэўным „memento" для тых, хто, ў гаспадарстве парлямантарным і нацыянальна неадналітым, ня хоча лічыцца з жаданьнямі і неабходнымі патрэбамі 1/4 часткі грамадзянства.

Прычыны раптоўнай перамены як урадовых, так і соймавых „сфэраў" у адносінах да жыдоў ёсьць выключна эканамічнага, унутранага характэру.

У адносінах-жа да беларусаў і ўкраінцаў ніколі нельга забывацца аб мамэнтах шмат вялікшага значэньня—мамэнтах вонкавых.

Нажаль, гэтыя апошнія мамэнты ў часе парляманцкай барацьбы і ня прымаюцца пад увагу.

З другога боку ультра-радыкалы выстаўляюць такія жаданьні, на якія, нават пры пэўнай згодзе на компроміс, правіца ніколі пайсьці ня можа.

Гэтак, напрыклад, „Вызваленьне" падало праект адабраньня зямлі ад вялікіх земляўласьнікаў бяз ніякага выкупу.

Трэба адзначыць, што селянін, перш за ўсё, жадае здабыць зямлю і ён з прыемнасьцю яе, нават, купіць, але толькі па умяркаванай цане, пры дапамозе дзяржавы праз банк, з рассрочкаю і г.д. Тады ён будзе пэўны, што гэта зямля ёсьць яго ўласнасьць і што яе ўжо ніхто ад яго не адбярэ. Ніколі ня трэба забывацца, што наш селянін перад усім—пераконаны уласьнік!

Чым жа можна вытлумачыць — гэткую сьлепату з боку правіцы і бязупынную дэмагогію з боку ультра-радыкалаў у мамэнт, калі трэба было-б абавязкова — гэтага вымагае інтэрас Дзяржавы! — знайсьці агульны компрамісавы язык?

Прычынаю гэтага зьяўляецца пераконаньне соймавых клюбаў, што ў гэтым Сойме, пры сучаснай атмасфэры і партыйным складзе, зямельная рэформа праведзена быць ня можа.

I дзеля гэтага, усе партыі вядуць барацьбу і спрачаюцца, гэтак кажучы, „па інэрцыі", „ex officio", ня верачы ў магчымасьць знайсьці які-небудзь компрамісавы выхад.

Галоўнаю-ж мэтаю гэтае барацьбы і спрэчак зьяўляецца жаданьне выкарыстаць соймавую трыбуну дзеля прадвыбарчай агітацыі ў новы Сойм, выбары ў які прадбачацца ў хуткім часе.

Адсюль—дэмагогія і вялікія пасулы з боку лявіцы і апэляваньне да, нібыта, вышэйшых інтарэсаў гаспадарства — з боку правіцы.

А ў рэзультаце—і тыя і другія топчуцца на адным месцы, як у нейкім зачараваным кругу.

## Грамадзяне!

*У ваяводзтвах: Кракаускім, Станіславаускім, Львоускім і Варшаускім вялікім паводзьдзем затоплена шмат вёсак і мястэчкау; сотні тысячау сялян засталося бяз прытулку; страты аграмадныя!*

*У хуткім часе па гмінах адбудзецца зборка на карысьць пацярпеўшых.*

*Ахвяруйце, хто што можа! дапамажыце у няшчасьці сваім братам-сялянам!*

## Аб зямельнай рэформе.

У Сойме цяпер разглядаецца праект зямельнае рэформы. Гэта ёсьць так важнае здарэньне ў жыцьці кожнай дзяржавы, а асабліва польскай, што на гэта трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Урэгуляваньне зямельнага пытаньня мае як палітычнае, так і эканамічнае значэньне для дзяржавы. Даволі сказаць, што бальшавікі ў пачатку рэвалюцыі перацягнулі сялянства на свой бок галоўным чынам дзеля таго, што раздалі ім абшарніцкую зямлю, а г. зв. «белы рух» Калчака, Дэнікіна, Юдэніча і Врангеля ня ўдаўся дзякуючы таму, што іх не падтрымалі сяляне, якія ня ведалі, ці не адбяруць у іх назад зямлю. Гэтак сама й у іншых дзяржавах, якія маюць большасьць сялянскага насяленьня. Дзеля гэтага ў новых дзяржавах, як Эстонія, Латвія, Літва і інш. зямельная рэформа была першым крокам урадаў і там гэтае пытаньне даўно ўжо вырашана. Толькі ў Польшчы яно ўвесь час адкладвалася, пакуль урэшці ня

прыйшоў час, калі далей цягнуць было ўжо нельга.

Перш за ўсё трэба памятаць, што Польшча край, галоўным чынам, сельска-гаспадарчы. У ёй каля 65% насяленьня займаецца земляробствам. Апрача таго ў цяперашні час гэтак укладваецца міжнародныя палітычныя і эканамічныя абставіны, што перад польскай фабрычнай прамысловасьцю стаяць надта сумныя пэрспэктывы. Уся Эўропа перажывае цяжкі эканамічны крызіс. Дзяржавы з высока разьвітай прамысловасьцю, як Англія і Нямеччына, за шмат выробляюць тавараў, а ня маюць рынкаў для прадажы. Цяпер як-раз ідзе страшэннае змаганьне за кітайскі рынак, якога ўтрата можа для Англіі кончыцца катастрофай. І гэта можа адбіцца й на іншых дзяржавах, у тым ліку і на Польшчы. У наш капіталістычны век усе дзяржавы састаўляюць адзіны неразрыўны ланцуг, з якога нельга вырваць ні воднага кольца бяз шкоды для іншых. Тое, што Расея, быўшая калісь аграмадным рынкам для заграічных тавараў, ня прыймае ўчасьця ў эканамічным жыцьці Эўропы, адбіваецца на ўсім сусьветным эканамічным арганізме. Раней, экспорт вугальля з Англіі састаўляў вельмі важны пункт у агульным гандлёвым яе балянсе. Але цяпер, дзякуючы агульнаму эканамічнаму крызісу, збыт гэтага прадукта з кожным годам зьмяншаецца. У 1913 годзе было вывезена з Англіі 73 мільёны тоннаў вугальля (1 тонна=61 пуд); у 1924 г. было вывезена 59 міл. тон., а сёлета вываз вугальля яшчэ паменшыўся. Ад лістапада мінулага года ў Англіі зачынілася 361 вугальных копяў, у якіх працавала каля 75 000 рабочых. А агульны лік безработных вугальных рабочых у Англіі даходзіць да 150.000. У зьвязку з гэтым агульны вываз з Англіі ўвесь час падае. Яшчэ ў 1920 г. вываз перавышаў увоз на 252 мільён. фунт. штэрл., у 1922 г.—154 міл., у 1923 г.—102 міл., у 1924 г.—29 міл. і сёлета прадбачыцца дэфіцыт на 26 міл. ф. шт.

Мы знарок затрымаліся на прыкладзе Англіі, як дзяржавы з найбольш высокай прамысловасьцю, каб паказаць, наскольки цяжкае палажэньне тых дзяржаваў, для якіх прамысловасьць служыць галоўным фундамэнтам. Значыцца Польшчы, якой прамысловасьць значна ніжэйшая за прамысловасьць заходніх дзяржаваў, няма што й думаць аб конкурэнцыі на вонкавых рынках. Гэта відаць з практыкі. Як сказаў прэм'ер і міністар фінансаў Грабскі, польскі ўвоз перавышае вываз у апошнія месяцы ў 2 разы. Гэта было так дасюль, пакуль не пачаўся конфлікт з Нямеччынай. Але цяпер палажэньне польскага экспорту і прамысловасьці яшчэ больш пагоршыўся. Калі-б, нават, нямецка-польскі конфлікт закончыўся удачна, дык, усёткі, нельга рахаваць на тое палажэньне, якое займала Польшча на нямецкім рынку, карыстаючыся прывілегіямі паводле Вэрсальскага трактату, каторых срок ужо мінуў. Перажываемы ўсей Эўропай вугальны крызіс паказвае на тое, што Польшча ня можа далей рахаваць на значны вываз гэтага прадукта, састаўляўшага дагэтуль добрую частку дзяржаўнага даходу. Дагэтуль было ў Польшчы каля 175 — 185.000 безработных. Але, як кончыцца летні будаўляны пэрыяд і далей будзе разьвівацца эканамічны крызіс, лік безработных павялічыцца яшчэ болей. Усё гэта трэба было адзначыць дзеля таго, каб паказаць, у якім напрамку павінна кіравацца эканамічная палітыка польскага ўраду. Урад павінен шукаць разьвязкі прамыслова-фінансавага крызісу не ў фабрычнай прамысловасьці, а у сельскай гаспадарцы. Толькі земляробства можа даць моцную падставу для польскага эканамічнага жыцьця, дзеля таго што Польшча зьяўляецца, галоўным чынам, дзяржавай земляробнай.

А для таго, каб сельская гаспадарка была фундамэнтам для польскіх фінансаў, патрэбны рэформы. Трэба даць усім уласную зямлю, хто на ёй працуе, і павялічыць надзелы зямлі для тых, у каго яны надта малыя і ня могуць пракарміць сваіх гаспадароў. Трэба коштам абшарнікаў даць зямлю сялянам, каб яны маглі пражыць і карыстацца прадуктамі прамысловасьці. Гэткім чынам пашырыўся-б упутраны рынак збыту для ўласнай фабрычнай прамысловасьці і ўстанавіліся-бы правільныя адносіны між вёскай і горадам. Зямля дала-бы працу безработным, якія або састаўляюць неспакойны для грамадзкай бясьпекі элемэнт, або прымушаны шукаць працы ў іншых дзяржавах, дзе ёсьць свае безработныя. У англіі лік безработных даходзіць да 1 280.000 і ўсіх іх утрымоўвае дзяржава. Гэтае пытаньне і разрашае праэкт новай зямельнае рэформы, які цяпер разглядаецца ў Сойме. Правая прэса, падтрымліваемая абшарнікамі, якіх справы пагоршацца, калі будзе праведзена ў жыцьцё новая зямельная рэформа, падняла шум дзеля таго, што новая зямельная рэформа зьніштажаючы абшарніцтва можа, быццам, пашкодзіць эканамічнаму стану дзяржавы. Абшарнікі кажуць, што толькі вялікія маёнткі могуць разьвіць высокую земляробную культуру, да якой ня здольна малакультурнае сялянства. Але гэты пагляд ня вытрымоўвае ніякае крытыкі. Толькі пэўная абясьпечанасьць сяляніна дасьць яму магчымасьць падняць культуру абрабатваемай зямлі. Урэшці й абшарнікі, галоўным чынам траціўшыя грошы ў гарадох і за граніцай, ня могуць пахваліцца высокай культурай сваіх маёнткаў.

Зьмест праэкта зямельнае рэформы, які цяпер разглядаецца ў Сойме, гэткі: максімум пакінутай абшарніку зямлі прызнаецца 60 гэктараў у прамысловых акругох, 180 гэктараў у іншых частках дзяржавы і 400 гэкт. на ўсходніх і заходніх «крэсах». Гэткіх кускоў зямлі зусім даволі, каб разьвіць «высокую культуру». Пры гэтым маёнткі, у якіх запраўды высокая культура, бяруцца пад увагу і ня будуць раздзелены. Гэтае пытаньне, у кожным паасобным здарэньні, разрашае міністар зямельных рэформаў супольна з міністрам земляробства, або радай міністраў. Плян разьдзелу земляў вызначае на кожны год рада міністраў. Абшарнікі маюць права самі дзяліць сваю зямлю, прадаючы яе. Калі-ж гэта ня будзе зроблена ў пэўны срок і ў пэўным месцы, дык рада міністраў робіць прымусовы разьдзел. За адабраную зямлю будзе заплочана ў 5% зямельнай рэнце, якой курс што-год будзе ўстанаўліваць міністар зямельных рэформаў супольна з міністрам земляробства і міністрам фінансаў. Кожны год будзе дзяліцца 200.000 гэктараў. Уся рэформа павінна быць праведзена ў працягу 10-ёх гадоў. Абшар, які не падлягае разьдзелу, ня можа быць большы за 600.000 гэкт. Пры разьдзеле маёнткаў працаўнікі таксама павінны быць узяты пад увагу і атрымоўваюць або зямлю або грашовую падмогу. Абшар новых гаспадарак ня можа быць большы за 25 гэкт., а ў Паморскім, Беластоцкім, Віленскім, Наваградзкім, Палескім і Валынскім ваяводзтвах ня больш за 45 гэктараў.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У Польшчы.

Сойм закончыў разгляд праекта зямельнае рэформы. Усяго ўнесена да ўрадовага законапраекту каля 1.200 папраўак. Аканчальнае галасаваньне ўсяго праекту мае адбыцца ў суботу.

Як паведамляе „Вил. Утро“, варшаўская прокуратура зьвярнулася да Сойму з просьбай аб выдачы судзебным уладам беларускіх паслоў Рагулі і Аўсяніка, якія абвінавачваюцца па 102 арт. Код. Карн.

„Kur. Pol.” паведамляе, што 22 ліпня ў Саўдэпію выяжджае „выцечка“ соймавых паслоў. На чале камітэту, які арганізуе гэтыя экскурсіі, стаяць паслы: Гэльман (Wyzwol.), Пасадскі (Zw. Chłop.) і Васыньчук (Ukr.). „Dz. Wil.“ дадае, што паслы паедуць у Расею групамі. Да першае групы, апрача арганізатараў, залічаны яшчэ: пасол Фёдаркевіч (Nar. Part. Chłop.) і беларускі пасол Тарашкевіч.

З Варшавы прыйшлі весткі, што на гэтых днях там арыштавана шайка бальшавіцкіх шпікоў. На чале гэтай шайкі стаяў, добра вядомы і ў Вільні, арганізатар ігарных прытонаў — В. Іліціч. Як паведамляюць газэты, у сувязі з выкрыцьцем гэтае арганізацыі, моцна скомпромітавана некалькі вядомых дзеячоў з „Вызваленьня“, якія падтрымлівалі Іліціча і, нават, дапамагалі яму ў атрыманьні канцэсіяў на шулеркі.

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.

# ДРЫГВА

### драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.

(*Глядзі „Грам. Гол.“ № 79*).

**Галубоўскі**. Але, паспаць ня дрэнна...

**Лякдугна**. Ну, дык кладзіся, Галубоўскі, а я палажу сваю галаву табе на бруха... (*гасіць сьвечку і кладуцца на падлозе*). Вось так... будзем спаць... Добрай ночы, Галубоўскі!

**Галубоўскі**. Дабранач, панок!

*Паўза. Абодва час ад часу стогнуць, охаюць.*

**Лякдугна**. Скажы мне, Галубоўскі, ці ты калі любіў?

**Галубоўскі** (*недачуўшы*). Чаго?

**Лякдугна**. Ці ты калі любіў дзяўчыну?

**Галубоўскі**. Кожнага дваццатага, як атрымоўваў пэнсыю...

**Лякдугна** (*перапыняючы яго*). Ах, не!... Я не аб тое... Ці ты любіў гэтак, каб табе было люба пацалаваць яе ручку, каб шчасьцем для цябе было глядзець у яе вочы, радасьцю — спаўняць яе жаданьні... Ці ты тужыў, адзін дзень яе ня бачыўшы?...

**Галубоўскі**. Не. Гэтак ня было.

**Лякдугна**. Ну, а сваю жонку?... Як жаніўся, ці жонку сваю ты любіў?

**Галубоскі**. Я сам ня ведаю...

**Лякдугна**. Як гэта «ня ведаю»? Дык нашто-ж ты жаніўся?

**Галубоўскі**. Ня ведаю, як гэта выйшла... Я чыноўнікам быў, добрую службу меў, трыццаць рублёў браў, дык людзі прычапіліся: жаніся ды жаніся!.. Сасваталі... Пасьля, ад першых запаведзяў да самага шлюбу, паілі, каб, значыцца, не раздумаўся; пасьля—п'янага павязьлі ў касьцёл і жанілі... З жонкай нядоўга жыў, бо пасьля сам сьпіўся, са службы выгналі і жонка з хаты выгнала... «Ня трэба— кажа — мне гэткага п'янчугі, што нічога ня робіць, а толькі апошнія манаткі прапівае»...

**Лякдугна**. Але... Ня доўга, значыцца, ты цешыўся сваім «сямейным шчасьцем»... А вось у мяне жонкі ня было і мусіць ужо ня будзе... Любіў калісь адну дзяўчыну... Была маладая, прыгожая, але хітрая, гадаўка... Я — студэнт, і няма ведама, ці калі кончу ўнівэрсытэт, а тут якраз падвярнуўся гатовы ўжо інжынер... Стары, але багаты... Меўся нават сваю ўласную хвабрыку будаваць... Ну, і кінула мяне... Звычайная гісторыя... Можа навет і добра, што гэтак сталася... і для яе, і для мяне... Але... але... так... (*пазёўвае*). Ну, будзем ужо спаць, Галубоўскі! Пара ўжо! Трэба выспацца, каб заўтра з новымі сіламі пачаць сваё адраджэньне.

*Паўза.*

**Лякдугна**. Галубоўскі!

**Галубоўскі**. Га?

**Лякдугна**. Ты яшчэ ня сьпіш?

**Галубоўскі**. Не.

**Лякдугна**. Страшэнна дрэнна...

**Галубоўскі**. Дык можа-б вы, панок, на сталох leglі... Будзе выгадней.

